# Малявaнка «Бусі»

3
2015

## Бабулін агарод



Вершы Софʼі ШАХ
Малюнкі Віталя ДУДАРЭНКІ

## Парадак



Вось прыгода мне з прыгод:
Буса сам на агарод
завітаў, хадзіў між градак
і дзівіўся на парадак.

## Перац



Промні сонца лашчаць-песцяць,
каб хутчэй свой колер перац
сам убачыў, – ён зялёны,
а ці жоўты, ці чырвоны?



## Радыска



А радыска дык радыска –
ёй мая малая міска!
Пабягу я па вядзерца –
поўненькае набярэцца.

## Гарох



Ды няўжо ніяк не мог
прама вырасці гарох?!
Штосьці крыва ўсё і крыва, –
ну хіба гэта не дзіва?



## Агурочкі



Агурочкі-агуркі –
роўна-доўгія радкі.
Агурочкі любяць дождж –
будзе ў дождж іх поўны кош!



## Баклажаны



У маёй сяброўкі Жанны
пасінелі баклажаны.
А яшчэ як пасмялеюць –
дык і болей пацямнеюць.



## Бурак



Палівaю, а бурак
штосьці журыцца, бядак.
Я ж не ведала-не знала,
што залішне палівала…

## Капуста



Вырасла занадта густа
у нас сёлета капуста.
Не, не любяць качаны
гэтакае гушчыні.



## Цыбуля



Я прашу сваю бабулю:
– Папалоць дазволь цыбулю!
А бабуля:
– Што ты, ўнучка, –
яшчэ сілы мала ў ручках!



## Памідоры



Я – у роспачы, у горы:
не растуць штось памідоры!
Гнуцца, нібы ў нейкай зморы –
зноўку трэба ім падпоры!



## Гарбуз



Гарбузы вы, гарбузы,
ўдзень палью вас тры разы –
семачкі-гарбузікі
будуць нібы гузікі!

– Вось часночак дык часночак:
за зубочкамі – зубочак!
– Так, але сакрэт такі:
ў нас не зу́бкі, а зубкі́.



## Часнок



Патысону патысон
расказаў пра дзіўны сон,
у якім – ну такі! – талеркай
абазваў яго Валерка.



## Патысон

## Рэпа



Ускапаю глебу
і пасею рэпу.
Потым будзе працы
выцягнуць, бы ў казцы!



## Бульба



Пазіраць мне люба,
як усходзіць бульба.
Будуць – анігадкі –
дранічкі-аладкі!